


№ 14 (175)

Красавік 2007 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## Дагледзь памяць

*Бягуць, імчаць няспынныя гады*
*І сівізной на скронях прарастаюць...*
*Памерлыя з дакорам сустракаюць*
*На могілках, як мы ідзем туды.*

*Гляджу я на струхнелыя крыжы,*
*Расцвілыя імхом-лішаем.*
*І сэрца болем поўніцца, адчаем:*
*«Хоць ты людскую*
*памяць зберажы!»*

*І ў тваім лёсе росчырк*
*смерць пакіне.*
*Хто на магілу кветкі прынясе?*
*І ці не знікне след твой пакрысе?*
*Імя тваё ў стагоддзях ці не згіне?*

*Жывеш — дагледзь памяць чужую;*
*Крыж абнаві і пацеры прамоў —*
*Нашчадкаў чалавечую любоў*
*Тады і ў вечнасці адчуеш.*

**Ганна ЛУКАШЭВІЧ,**
**школьніца, г. Глыбокае**




*Фота Леаніда БАРОЎСКАГА*

## Думкі на Радаўніцу

*Радаўніца, Радаўніца —*
*Няма чаму радавацца.*
*Цяжкае ты свята. Балючая дата.*

*Гэта памяць заўжды нас яднала.*
*Мы здалёку з'язджаемся зноў*
*Да зямлі той, што нас гадавала,*
*Да крыжоў, да святых абразоў.*

*Той, хто крэпкі яшчэ і рухавы,*
*А другі — з адыходзячых сіл,*
*Пакідаўшы турботы і справы,*
*Усе ідзем мы да родных магіл.*

*У крыві гэтай наша патрэба,*
*Помніць трэба жывым на зямлі,*
*Што загіне расліна і дрэва,*
*Пагубляўшы свае карані.*

*А тут мора сабранага жалю...*
*Вырываецца цяжкі ўздых:*
*Як бацькоўскія сэрцы стрывалі,*
*Пахаваўшы дзяцей маладых?*

*Тут і Бога ў слязах папракаеш,*
*Не прыняўшы ўсім сэрцам падзей:*
*Божа мілы, за што забіраеш*
*Самых любых і блізкіх людзей?*

**Валерый ХІХІЧ**

### Унікальная выстаўка



***У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі з 5 па 30 красавіка 2007 года пачынае сваю працу выстаўка сучасных іспанскіх майстроў. Яна з'яўляецца своеасаблівым працягам цыклу выставак, прысвечаных гісторыі ўзнікнення і развіцця зброі.***

Ваенна-тэхнічная думка непадзельна звязана з развіццём грамадства. Гістарычныя крыніцы сведчаць, што першая ручная агнястрэльная зброя (пісталеты) з'явілася ў пачатку XVI стагоддзя ў Еўропе, а папярэднікамі пісталетаў былі аркебузы. Гэта старажытнае, амаль гладкаствольнае ружжо, якое было вельмі цяжкім і дрэнна страляла. З развіццём грамадства агнястрэльная зброя ўдасканальвалася. Паступова ўзнікала шмат яе форм, асабліва ў XX стагоддзі. Многія выкарыстоўваюцца і сёння, з'яўляюцца прамымі нашчадкамі самых першых відаў.

Наведвальнікі музея маюць унікальную магчымасць пазнаёміцца з наступнымі відамі: пісталетамі крэмневымі, калёсна-затворнымі, паяснымі, аркебузамі, аўтаматычнымі мушкетамі, мушкетонамі, вінтоўкамі, аўтаматамі, кольтамі, маўзерамі, вінчэстерамі, пісталетамі-нажамі, пісталетамі-кінжаламі, пісталетамі-сякерамі і інш.

Шырока прадстаўлены на выстаўцы і батальны лубок, элементы вайсковага рыштунку са збораў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.

> ***Прырода, стварыўшы людзей такімі, якія яны ёсць, падарыла ім суцяшэнне ад многага зла, надзяліўшы іх сям'ёй і радзімай***
>
> *У. Фаскала*

## Велікодны карагод

***Вялікдзень – галоўнае свята для большасці хрысціянаў. Яно суправаджаецца шэрагам абрадаў – трапезамі, гульнямі з велікоднымі яйкамі, валачобнымі абыходамі па хатах, карагодамі.***

Экспазіцыя «Велікодны карагод» цалкам створана на калекцыях Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі. Асобны раздзел прысвечаны галоўнаму атрыбуту свята – велікодным яйкам, якія білі і качалі ў святочныя дні. Гэта і дэкаратыўныя яйкі, і інкруставаныя саломкай, і яйкі-пісанкі, размаляваныя вядомымі беларускімі майстрамі М. Галынскай, К. Пакаліцынай і інш. Народны майстар С. Тунік прадстаўлены на экспазіцыі яйкамі з выявамі праваслаўных святых і храмаў. Калекцыя «Вырабы народных майстроў» знаёміць з драўлянай скульптурай І. Супрунчыка, прысвечанай святу, а таксама кампазіцыяй «Каравай», выкананай народным умельцам Я. Шаўчуком.

Шмат на выстаўцы жывапісных абразоў. Зацікавяць наведвальнікаў і абразы, зробленыя з выкарыстаннем шкляруса і бісеру.

Калекцыя «Метал» знаёміць з экспанатамі, якія тэматычна звязаны з Вялікднём: трох- і чатырохстворкавымі складнямі XIX–XX стст., упрыгожанымі эмалямі, крыжамі, падсвечнікамі. У экспазіцыю ўвайшлі старадрукі, тэксты якіх распавядаюць пра хрысціянскія святы і зміяшчаюць царкоўныя песнапенні.

## У нумары:



### На тым тыдні...

● **З 9 па 16 красавіка** ў мінскім касцёле Найсвятой Тройцы (Святога Роха) праходзіць **Восьмы фестываль духоўнай музыкі «Залатагорская ліра»**. Праграма яго складаецца з спеваў праваслаўных і каталіцкіх святкаванняў, класічнай музыкі, твораў беларускіх і рускіх кампазітараў. Так, у панядзелак прайшоў канцэрт лютневай музыкі ў выкананні прафесара Кракаўскай акадэміі музыкі Антонія Пільха, а ў аўторак была ладжана сустрэча з ім і майстар-клас для лютністаў. У аўторак адбыўся канцэрт харавой музыкі з удзелам мінскіх маладзёжнага хору «Светач» і хору Нацыянальнай акадэміі навук «Акадэмія». У сераду ансамбль рускіх народных інструментаў «Купель» Мінскага Дома Міласэрнасці прадставіў творы М. Глінкі, П. Чайкоўскага, А. Пятрова ды іншых. У чацвер была сустрэча з прафесарам Варшаўскай акадэміі музыкі Марыетай Крузэль-Сасноўскай, прысвечаная творчасці польскага кампазітара Марыяна Савы, а таксама – праблемам папулярызацыі сучаснай акадэмічнай музыкі; увечары – канцэрт арганнай музыкі ў выкананні Святлены Немагай, Вольгі Падгайскай і Васіля Галавана (тут прагучаў і фрагмент сюіты Г. Кароткіна «Францыск Скарына»). У пятніцу Марыяна Крузэль-Сасноўская і Іяланта Сасноўская прадставілі творы з табулатуры XVII ст., музыку М. Савы, Я. Маклакевіча ды іншых.

**16 красавіка пройдзе грамадскі прагляд дакументальнага фільма «Старадаўнія інструменты Беларусі», а таксама – творчая сустрэча з рэжысёрам фільма і музыкам Зміцерам Сасноўскім. Фільм распавядае пра гісторыю пяці беларускіх інструментаў – дуды, лютні, ліры, гусляў, сурмы.**

## Агульны інтарэс

***На Пухавіччыне досыць актыўны ўдзел у краязнаўчай рабоце прымаюць бібліятэкары. Таму, відавочна, не выпадковым стала правядзенне ў раённай бібліятэцы семінара на тэму «Інфармацыйна-краязнаўчыя рэсурсы бібліятэкі ў дапамогу вывучэнню гісторыі свайго краю». Але ўдзельнікамі мерапрыемства сталі разам з бібліятэкарамі настаўнікі беларускай мовы і літаратуры.***

– Мы наўмысна вырашылі аб'яднаць свае намаганні з раённым аддзелам адукацыі, – расказвае дырэктар Пухавіцкай РЦБС Ганна Лабастава. – Вельмі важна, калі нашы гісторыка-краязнаўчыя здабыткі становяцца вядомымі ў школе. Выхаванне ў юнага чытача павагі да сваёй малой радзімы – гэта і клопат сельскай бібліятэкі.

З цікавасцю ўдзельнікі семінара азнаёміліся з выступленнем настаўніцы Турынскай СШ А. Вераскоўскай «З любоўю да роднага краю: далучэнне падрастаючага пакалення да гісторыі свайго краю як часткі гісторыі Беларусі, выхаванне пачуцця гонару і павагі да самабытнай культуры, захаванне звычаяў і мясцовых традыцый». Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Матароўскай СШ Л. Трапашка расказала пра тое, якім чынам яна выкарыстоўвае краязнаўчыя матэрыялы на сваіх уроках. Тэма даклада загадчыцы аддзела абслугоўвання раённай бібліятэкі Т. Александровіч – «Інфармацыйныя рэсурсы бібліятэкі па краязнаўстве: тэндэнцыі і навацыі». Ішла размова на семінары і пра электронную бібліятэчную картатэку «Памяць Пухавіччыны».

Да семінара бібліятэкары падрыхтавалі і выставу «Друкаваныя матэрыялы аб нашым краі». А бібліёграф аддзела абслугоўвання раённай бібліятэкі Л. Пуціцкая выступіла з каментарыем да матэрыялаў, змешчаных на выставе.

Магчыма, семінар, што прайшоў у Пухавіцкім раёне, істотна паўплывае на развіццё, пашырэнне школьнага краязнаўства ў рэгіёне.

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***

## Як ажывіць для будучыні гісторыка-культурныя каштоўнасці?

***У 2008 годзе горад Скідзель будзе адзначаць свой 500-гадовы юбілей. Натуральна, юбілейнае свята горада мясцовыя ўлады пастараюцца зрабіць яскравым, маштабным і запамінальным – дастойным такой значнай даты. І, зразумела, не застануцца па-за ўвагай помнікі гісторыі і архітэктуры.***



*Касцёл Унебаўзяцця Маці Божай (2-я пал. XIX ст.)*

Патрабуе хуткай рэстаўрацыі мураваны касцёл, пабудаваны ў 2-й палове XIX стагоддзя: вонкавыя сцены моцна сапсаваліся ад вільгаці. Касцёл Унебаўзяцця Маці Божай – былая капліца-пахавальня князёў Канстанціна і Густава Чацвярцінскіх, да 1939 года быў прыдворным касцёлам гэтай сям'і. Пад час Вялікай Айчыннай вайны быў закрыты. Пасля 1945 года тут доўгі час размяшчаўся ваенкамат і вадзіцельскія курсы. У 1980-х гадах будынак не выкарыстоўваўся і прыйшоў у заняпад. У 1990 годзе прыхаджане касцёла зрабілі касметычны рамонт будынка.

Аддзел культуры Гродзенскага райвыканкама ўжо атрымаў дазвол з Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь на правядзенне навукова-даследчых і праектных работ на гэтым аб'екце. Спецыялісты абследавалі будынак касцёла і вызначылі асноўныя этапы яго рэканструкцыі. Была звернута ўвага і на пытанне добраўпарадкавання паркавай тэрыторыі, будаўніцтва новага мастка праз раку Скідлянку, каб забяспечыць выгляд касцёла з боку галоўнай дарогі. «Таксама неабходна вярнуць былы выгляд тэрасе з 13 прыступкамі перад уваходам у касцёл», – звярнуўся з прось-бай ксёндз Цэзарый Міх.

Ужо рыхтуецца каштарыс на выкананне праектных работ. А касцёл, узвышаючыся над верхалінамі ўсыпаных снегам дрэў, чакае свайго часу... і ўзвядзення будаўнічых рыштаванняў-«лясоў».

Патрабуе добраўпарадкавання і тэрыторыя парку – помніка садова-паркавага мастацтва XIX стагоддзя (плошча – 4,8 га), дзе размяшчаецца касцёл. На жаль, не захаваўся сядзібны дом князёў Чацвярцінскіх, ён згарэў у 1920 годзе. Уваход на тэрыторыю парку аформлены мураванай брамай, узведзенай у 1898 годзе ў выглядзе дзвюх «казачных» круглых вежаў з шатровым завяршэннем, аб'яднаных каванымі варотамі. Аснову насаджэнняў складаюць векавыя пасадкі з ліпы, таполі, граба, клёна, рэдкіх відаў ліпы амерыканскай буйністай, ліпы каралінскай, сасны веймутавай, айвы японскай. У планах – стварэнне батанічнага саду.

Гісторыі горада прысвечана шмат публікацый у перыядычным друку, яго асноўныя этапы асветлены ў гісторыка-дакументальнай хроніцы «Памяць. Гродзенскі раён». Аднак мала прадстаўлена матэрыялаў пра князёў Чацвярцінскіх, пра гісторыю пабудовы касцёла, мала вядома легендаў, звязаных з гэтым месцам. А ў вас, паважаныя чытачы, напэўна, захаваліся якія-небудзь дакументы, якія дапамогуць нам больш выразна ўявіць карціну жыцця нашых землякоў, ці ў сямейных архівах – паштоўкі альбо фотаздымкі з выявамі «старога» горада Скідзеля, яго вуліц, помнікаў гісторыі і архітэктуры?

Вас чакаюць у аддзеле культуры Гродзенскага райвыканкама па адрасе: г. Гродна, вул. Горкага, 51.

***Змяняецца час, змяняюцца і адносіны да тых багаццяў, якія дасталіся нам ад нашай гісторыі. Давайце захаваем іх для нашчадкаў...***

***Наталля РАМАНОВІЧ,***
***галоўны спецыяліст аддзела культуры Гродзенскага райвыканкама***

*Імпрэза*

## «...Ладзілі дуду, каб прагнаць нуду»

Шырока пашыранае ўяўленне, што дуда і валынка – адзін і той жа інструмент, на якім граюць ірландцы ды шатландцы. Але якраз без беларускай дуды яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя не абыходзіліся ні вечарынкі, ні вяселлі, ні якія іншыя гульбішчы ў нашым краі. Цяпер энцыклапедычныя даведнікі падаюць 1951 год як апошні, калі інструмент быў зафіксаваны ў народным ужытку. Тым ні менш, падчас фальклорнай экспедыцыі дуда была зафіксаваная на вечарынцы ў Лепельскім раёне ў 1968 годзе, у 1980-х памёр (апошні?) дудар у Баранавічах. У 1990-х пачаў рабіць дуды і граць на іх Тодар Кашкурэвіч, а потым – і Уладзімір Пузыня, Алесь Лось... Як бачым, традыцыя амаль не перарывалася.

Апошнія гады хутка пашыраецца грамадскі рух па вяртанні гэтага аднаго з самых старажытных і містычных беларускіх інструментаў. 4 мая 2006 года быў пакладзены пачатак традыцыі правядзення штогадовага «Дударскага фэсту». Ягоная мэта – склікаць на сустрэчу дудароў і стварыць умовы для іх творчага супрацоўніцтва.



*Дзяўчына-дудар на фэсце ў 2006 годзе*

«Дударскі фэст 2007» пройдзе з 20 па 22 красавіка гэтага года. Першы канцэрт адбудзецца 20 красавіка ў малой зале канцэртнай залы «Мінск», другі – 22 красавіка ў клубе «Стэп». На 21 красавіка запланаваная Міжнародная навуковая канферэнцыя пад назвай «Традыцыі захавання дударскай традыцыі».

На фестывальных сцэнах будуць гучаць беларускія, галісійскія, шатландскія, шведскія і латышскія дуды. У фестывалі будзе прадстаўлена дударская музыка ўсіх накірункаў – ад традыцыйнага фальклора ды еўрапейскіх сярэднявечных танцаў і да рока з дудамі. Удзел бяруць гурты «Стары Ольса», «Кудзьмень», «Келіх кола», «Ліцьвінскі хмель», «Ceilidh Ceol», «За парогам», «Капэля Алеся Лася», «Litvintroll» і «Testamentum terrae» з Беларусі ды іншыя; сваю дударскую традыцыю пакажуць «Dudziarzy Wielkopolski» з Польшчы, «Vydraga» з Літвы.

Акром усяго, хаця традыцыйна дударамі былі толькі мужчыны (і цяперашнія музыкі амаль не ўяўляюць дудароў-жанчынаў), на фэсце запланаваныя выступленні і дзяўчатаў з дудою. Карацей, на канцэртах кожны зможа знайсці і цікавыя выступленні, і неспадзеўкі.

***Уладзімір ПУЧЫНСКІ***

## У гонар Льва Сапегі



***У красавіку грамадскасць Беларусі адзначае 450-годдзе Льва Сапегі (1557–1633), дзяржаўнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага.***

Леў Іванавіч Сапега нарадзіўся ў вёсцы Астроўна Віцебскага павета (цяпер у Бешанковіцкім раёне). Атрымаў выдатную адукацыю, свабодна валодаў пяцццю замежнымі мовамі. Быў пісарам вялікім ВКЛ (1581–1585), падканцлерам (1585–1589) і канцлерам ВКЛ (1589–1623), потым ваяводам віленскім і адначасова гетманам вялікім. Леў Сапега – адзін са стваральнікаў Трыбунала Вялікага княства Літоўскага – найвышэйшага дзяржаўнага суда. Ён узначальваў соймавую камісію па падрыхтоўцы Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года, адрэдагаваў яго тэкст і фінансаваў яго выданне ў віленскай друкарні Мамонічаў. З 1589 года як канцлер стаў кіраўніком знешняй і ўнутранай палітыкі ВКЛ.

У сваёй палітыцы Леў Сапега адстойваў суверэнітэт ВКЛ у складзе федэратыўнай Рэчы Паспалітай. Садзейнічаў развіццю беларускага кнігадрукавання...

Рэспубліканскі мастацка-экспертны савет па манументальным мастацтве пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь зацвердзіў праект помніка Льву Сапегу, які плануецца ўстанавіць у Слоніме – горадзе, дзе Сапега доўгі час займаў пасаду старасты.

Калі адбудзецца гэта падзея? – спыталі мы аўтара помніка, вядомага беларускага скульптара Івана Міско.

Адказаць на гэта пытанне не вельмі проста: адсутнічае фінансаванне. «Магчыма, варта было б адкрыць дабрачынны рахунак, каб людзі, неабыякавыя да гісторыі і культуры нашай Радзімы, змаглі аказаць спонсарскую дапамогу», – гаворыць Іван Якімавіч.

Скульптар І. Міско сам родам са Слонімшчыны. Марыць, каб хоць адна яго работа была ўстаноўлена на радзіме...

***(Паводле газеты «Звязда»)***

Віктар ШНІП

## Балада Льва Сапегі

*У Ружанах на вуліцы вецер,*
*Нібы воўк, што ў начы заблудзіў,*
*Ля вакон, што да раніцы свецяць,*
*Прыпыніўся, свой шлях прытаіў*
*І заціх... І прыцішыў дыханне*
*Па-над кнігаю новаю ён,*
*Адзінокі, сівы, бы ў тумане,*
*І самотны, як вечнасць, як сон,*
*Леў Сапега, што сёння начуе*
*Сярод кніг, як сярод цішыні,*
*У якой па стагоддзях вандруе*
*Белы рыцар на белым кані.*
*І гараць свечкі светла, бы ў Храме,*
*І па кнігах зноў цені, як дым,*
*Прапаўзаюць, губляюцца з намі*
*У паветры ад зор залатым.*
*І запіша ён зноў, што спазнае,*
*Запісаўшы, закрэсліць ізноў.*
*Ён – Сапега, Сапегу свет знае,*
*Як сам знае Сапега любоў*
*Да зямлі, на якой нарадзіўся,*
*За якую маліўся і біўся...*
*І назаўтра ён сядзе ў карэту,*
*Зноў у Вільню паедзе, у свет,*
*І за ім, нібы воўк, на край свету*
*Будзе вецер ляцець след у след...*

**Ладзіць бібліятэка**

*Выстава пад такой назвай, прымеркаваная да 880-годдзя нашага горада, аформлена ў цэнтральнай раённай бібліятэцы Клецка. На ёй – значныя падзеі мінуўшчыны і цікавыя факты сучаснасці.*

# Клецкая зямля – гісторыяй багата

Спраўды, зямля Клеччыны багатая на гістарычныя падзеі. Шмат варожых нашэсцяў звеадаў наш край у даўнія часы. Калісьці ён быў арэнай баявых падзей у барацьбе з крымскімі татарамі. І менавіта пераможная бітва пад Клецкам у 1506 годзе канчаткова спыніла навалу


Рынкавы пляц у Клецку (справа – Дабравешчанскі касцёл) на фота 1930-х гг.

крымскіх татар. Да 500-годдзя перамогі войск Вялікага княства Літоўскага пад камандаваннем Міхаіла Глінскага над крымскімі татарамі на Краснаставе пад Клецкам аддзелам абслугоўвання і інфармацыі цэнтральнай бібліятэкі быў выдадзены буклет «Клеччына і татары», аформлена тэматычная папка «Клецкая бітва 1506 года», дзе знайшлі адлюстраванне матэрыялы аб гэтай падзеі. Адна са старонак веснага часопіса «І слова гучала, чароўнае слова...», праведзенага з нагоды Дня беларускага пісьменства і друку, была прысвечана 500-годдзю перамогі пад Клецкам над крымскімі татарамі. Пачулі ўдзельнікі імпрэзы і вершы сябра літаратурнага аб'яднання «Голас» Альдоніі Навучанковай, прысвечаныя Клецкай бітве 1506 года. Супрацоўнікі раённай бібліятэкі бралі актыўны ўдзел у правядзенні навукова-практычнай канферэнцыі «Клецк у гісторыі Беларусі». Разгорнутая пад такой жа назвай кніжна-ілюстрацыйная выстава абазначыла галоўныя вехі гістарычнага развіцця Клеччыны. З дакладам «Краязнаўчая праца бібліятэк раёна як аснова адраджэння культурнай і гістарычнай спадчыны, захавання нацыянальнай памяці свайго рэгіёну» выступіла дырэктар Клецкай ЦБС Л.У. Цімавец.

У 1654 годзе на зямлі Вялікага княства Літоўскага рушылі войскі рускага цара Аляксея Міхайлавіча. Не абмінула крывавая віхура і Клецк. У 1706 годзе, 19 красавіка, пад час Паўночнай вайны, адбылся бой паміж шведскім войскам і атрадамі ваяводы Сімяона Няплюева. Цікавыя звесткі аб падзеях тых дзён прадстаўлены ў папцы «Гістарычны скарб зямлі Клецкай».

Суровым выпрабаваннем для нашых бацькоў і дзядоў стала Вялікая Айчынная вайна. Пазнаёміцца з гісторыяй горада і раёна ў час той вайны дае магчымасць папка «Ад вялікай перамогі – да нашых дзён». Шмат матэрыялаў у ёй прысвечана сустрэчы савецкіх воінаў 58-й гвардзейскай стралковай дывізіі 5-й гвардзейскай арміі з разведгрупай 69-й пяхотнай дывізіі 5-га армейскага корпуса 1-й амерыканскай арміі. Удзельнікам гэтай сустрэчы быў Аляксандр Сафроновіч Сільвашка, які цяпер жыве ў вёсцы Морач Клецкага раёна. Фотаздымак, на якім стаяць шчаслівыя і неймаверна стомленыя савецкі лейтэнант Аляксандр Сільвашка і малодшы лейтэнант амерыканскай арміі Біл Робертсан, абышоў старонкі газет і часопісаў многіх краін антыгітлераўскай кааліцыі і стаў своеасаблівым сімвалам сустрэчы савецкіх войскаў з амерыканцамі на Эльбе.

*Кожны народ*
*не без роду і племя*
*І мае летапіс свой*
*і гісторыі*
*След на старонках, –*

некалі напісаў у паэме Мікола Гусоўскі. Свой след на старонках гісторыі мае і Клецкая зямля. Аб ім яскрава паведамляе буклет «Летапіс памятных падзей Клеччыны».

Амаль 400 гадоў горад належаў роду Радзівілаў. Яны актыўна спрыялі культурнаму і эканамічнаму развіццю Клецка ў эпоху Сярэднявечча. Першым уладальнікам горада стаў князь Мікалай Радзівіл Чорны. Дзякуючы яго намаганням, у Клецк быў запрошаны выдатны рэфармацыйны дзеяч, гуманіст-асветнік Сымон Будны. У Клецку ён рыхтаваў да выдання свой «Катэхізіс».

Акрамя гістарычнага летапісу, бібліятэка вядзе «Мураваны летапіс Клеччыны», дзе сабраны падрабязны матэрыял аб 84 помніках гісторыі і культуры краю.

Матэрыялы, сабраныя ў папцы «Імя на карце Клеччыны», дазваляюць чытачам пазнаёміцца з лёсамі тых, чые імёны ўвекавечаны ў назвах вуліц горада і раёна.

Клеччына – радзіма многіх вядомых у Беларусі і па-за яе межамі вучоных, дзеячаў культуры і мастацтва, работнікаў розных сфер народнай гаспадаркі. Мы ганарымся пісьменніцай XIX стагоддзя Евай Фялінскай, удзельнікам рускай палярнай экспедыцыі на Новасібірскія астравы Канстанцінам Валасовічам, пісьменнікам Уладзімірам Дамашэвічам, паэтам Леанідам Галубовічам, прафесарам Мінскага медыцынскага універсітэта Пятром Лобкам і многімі іншымі землякамі. Падрабязная інфармацыя аб іх сабрана ў папцы «Галерэя слаўтутасцей роднага краю».

Частыя запыты чытачоў аб гісторыі вуліц горада падштурхнулі бібліятэкараў да збору матэрыялаў. Так з'явілася папка «Вуліцы горада расказваюць...». Вынікам даследчай працы стаў таксама буклет «Прыродныя ўмовы і рэсурсы Клецкага раёна». Выданне карыстаецца вялікім попытам у студэнтаў і вучняў школ горада.

Значнае месца на краязнаўчай выставе адведзена матэрыялам пра мясцовых паэтаў і іх выданням. Прыгажосць родных краявідаў раскрывае зборнік вершаў «Валошкі ў жыце» сяброў літаб'яднання «Голас». Вершы зборніка Альдоніі Навучанковай «Вянок лёсу» пранікнуты патрыятызмам, шчырым стаўленнем да людзей. Тут жа прадстаўлены зборнікі Л. Мялешка, С. Стромскай, А. Жукоўскага. Мясцовыя самадзейныя паэты з'яўляюцца частымі ўдзельнікамі мерапрыемстваў, што праводзіць бібліятэка. У рамках літаратурна-музычнай гасцёўні «Субяседнік» праходзяць творчыя вечары аўтараў, прэзэнтацыі зборнікаў, літаратурныя сустрэчы.

Сёння Клецк – прамысловы горад, у якім працуюць розныя прадпрыемствы. Падрабязная інфармацыя на гэтую тэму (акрамя краязнаўчага фонду) адлюстравана ў сацыяльна-інфармацыйным цэнтры чытальнай залы. Якасна і поўна выконваць запыты карыстальнікаў дапамагае краязнаўчая картатэка, у якой сабраны падрабязны матэрыял аб родным краі.


*Клецк на гравюры пачатку XVII ст.*

*Сёлета Клецк адсвяткуе сваё 880-годдзе. Гэта акалічнасць дае яшчэ адзін творчы імпульс да збору матэрыялаў аб нашай радзіме. На працягу года бібліятэка планує правесці цыкл мерапрыемстваў да юбілейнай даты «Клецк.Повязь часоў».*

*Алена ЛЯШКЕВІЧ,*
*галоўны бібліятэкар аддзела абслугоўвання і інфармацыі Клецкай ЦБС*

## Кароткі слоўнік краязнаўча-прававой тэрміналогіі беларускай старажытнасці

**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**ЦЫДУЛА** – (ад польск. бюлетэнь, дакумент) – назва дакументаў, запісаў. Гэты тэрмін ужываўся ў Статуце ВКЛ у дачыненні да пісьмовага тэксту судовага дэкрэта, выраку (прыгавор суда ці дагавор, пагадненне, пастанова князёў, ваявод, вялікага князя). З цягам часу ў звычайным побыце выраз «цыдула» («цыдулка») ужываўся пад разуменнем і нейкай невялікай нататкі, запіскі.

**ЦЫРОГРАФ** (ад лац. расписка) – пісьмовае пазыковае абавязацельства, якое даўжнік даваў крэдытору пры атрыманні грашовай пазыкі. У ім пазначаліся сума пазыкі і тэрмін яе аддачы. Адзін з найбольш пераканаўчых пісьмовых доказаў у грамадзянскім судаводстве ВКЛ. Карыслівая падробка абавязацельства каралася як дзяржаўнае злачынства.

**ЦЭНТНЕР** (ад ням. сто адзінак, адна адзінка роўная 100 кг) – асноўная адзінка вагі ў сістэме мер ВКЛ пры аптовым гандлі металам (жалеза, волава, медзь, свінец), запісаная ў прывілеях на магдэбургскае права. Згодна пастановы сейма 1766 года велічыня цэнтнера раўнялася беркаўцу (74,96 кг). У сучаснай беларускай мове паняцце «цэнтнер» азначае адзінку вагі, роўную 100 кг.

**ЦЭНТРАЛЬНЫ ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ СТАРАЖЫТНЫХ АКТАЎ (ЦДАСА)** створаны ў Маскве ў 1925 г. як сховішча Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва СССР. У 1931 г. рэарганізаваны ў Дзяржаўны архіў феадальна-прыгонніцкай эпохі, з 1941 – ЦДАСА. У ім захоўваецца больш за 3 мільёны спраў, 200 тысяч экземпляраў друкаваных выданняў. Сярод іх унікальныя дакументы, дагаворныя і дарчыя граматы вялікіх князёў і ўдзельных князёў, заканадаўчыя акты XI–XVIII стст. і іншыя матэрыялы пра палітычнае, сацыяльна-эканамічнае жыццё, гісторыю і культуру Расіі, а таксама большая частка дакументаў дзяржаўнага архіва ВКЛ, у тым ліку Метрыка Вялікага княства Літоўскага (умоўная назва архіва канцыляры ВКЛ XIV–XVIII стст.). Архіў ВКЛ быў дастаўлены ў Пецярбург у 1794–1795 гг., у 1887-м перададзены ў Маскоўскі архіў Міністэрства юстыцыі. Гэты фонд ЦДАСА налічвае 584 адзінкі захавання, у тым ліку кнігі запісаў судовых і публічных спраў, рэестры і інш. У рукапісным зборы былой бібліятэкі Маскоўскага архіва Міністэрства юстыцыі зберагаецца рэдкі спіс Статута 1588, зроблены ў 1643 г. У калекцыі старадрукаў – 2 экземпляры Статута 1588 г. 3-га выдання (1600) і выданне Статута на польскай мове (друкарня Мамонічаў). У фондах ЦДАСА ёсць таксама і іншыя старадрукі, рукапісы і дакументы – каштоўныя крыніцы для даследавання беларускай даўніны, у прыватнасці прававой думкі ў ВКЛ XVI–XVII стст.

**З бібліятэкі «КГ»**

## «Радзівілаўскі Нясвіж»

Пад такой назвай у выдавецтве «Харвест» выйшла кніга Вольгі Бажэнавай у пачатку гэтага года. Выданне добра ілюстравана і разлічана як на спецыялістаў, так і на студэнтаў гістарычных, мастацкіх факультэтаў ВНУ, для ўсіх, хто зацікаўлены культурнай спадчынай сваёй Радзімы, Нясвіжчыны ў прыватнасці. Тут можна знайсці дакладную інфармацыю пра знакаміты магнацкі род, пра развіццё культуры, мастацтваў, архітэктуры ВКЛ XVIII стагоддзя. Асабліва падрабязна падаецца гісторыя стварэння роспісаў касцёла Божага Цела. Напрыклад, раскрываюцца асаблівасці нясвіжскага манументальнага роспісу, які яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя ўвайшоў як выдатны твор мастацтва ў «Гісторыю мастацтваў» Рэчы Паспалітай.




Зараз, калі помнікі Нясвіжа ўключаны ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКО, кожная такая кніга мае вялікае значэнне не толькі для нас – тутэйшых, але і для агульнаеўрапейскай і сусветнай культуры.





*Даўно цягнула прыехаць на Дзятлаўшчыну, зайсці ў гісторыка-краязнаўчы музей, які я заўсёды для сябе называла музеем народнай памяці, калі была маладая рэдактарка Гродзенскай студыі тэлебачання. Тут я запісвала тэлевізійныя перадачы, на якія пасля прыходзіла шмат цёплых лістоў. А поспеху нашых перадач, канечне, спрыяў тагачасны дырэктар музея, краязнавец Міхаіл Петрыкевіч.*

*Нас, немаладога чалавека і маладую паэтку, аб'ядноўвала не толькі любоў да гісторыі роднага краю, але і блізкія абаім людзі – Янка Брыль і Уладзімір Калеснік. Яны былі разам з маімі бацькамі ў партызанскім атрадзе, і абодва яны сябравалі з Петрыкевічам, а Калеснік дык нават вучыўся разам з Петрыкевічам у Мінскім педінстытуце, пра што напісаў у цікавым нарысе «Партрэт друга» (кніга «Сейбіты разумнага, добрага, вечнага». Мінск, 1966). У нарысе ярка намаляваная сэрцавіна сяброўскага характару: непрыйманне маны і імкненне да свабоды. Жыць па гэтым патрабаванні душы заўсёды цяжка, але можна. Вось Уладзімір Андрэевіч апісвае, як прыязджаў у вёску Валеўку Навагрудскага раёна, дзе Петрыкевіч на той час настаўнічаў. Спасылаючыся на словы гаспадаровай жонкі, Марыі Барысаўны, зазначае, што Петрыкевіч прысвячаў свой дзень ад відна да цямна ... «усё для школы: зіма і лета, дзень і ноч. То нешта піша, то нешта рысуе, то будуе. Адзін ты хіба там? Другія ж настаўнікі ёсць. І дырэктар...».*

*Асоба ў краязнаўстве*

# Стваральнік

## Міхаіл Фёдаравіч Петрыкевіч

Петрыкевіч-настаўнік збіраў са школьнікамі матэрыялы па гісторыі і культуры роднага краю, як і кожны духоўны руплівец ва ўсім свеце. Паверце, музей, створаны ў гады ягонай працы ў Валеўцы, стаў адным з лепшых школьных музеяў Беларусі. Мяркуеце, усё гэта лёгка рабілася? Ды, сябры, нават такі звышпатрэбны музей ён будаваў..., лічы, патаемна, пад іншымі «вывескамі». Скажы шчырую праўду – знойдзецца не адзін тузін чынавенства, які тыцне не адным тузінам розных «вышэйшых» цыдул, а ў выніку... ідэя задуманага і патрэбнага музея будзе смяртэльна-паперна пахавана ў канцылярскім пыле... І толькі тады, калі будынак паўстаў, сталася яснасць: у Дзятлаве будзе музей... Выбачайце, паколькі я тады і пазней была сведкай гэтага, то праз дзесяцігоддзі магу параўноўваць і шкадаваць: напрыклад, у не менш дарагім мне Іўі ці Воранаве раённага музея няма і дасюль...

Петрыкевіч зусім не гучна, спакойна, грунтоўна і тактоўна па-настаўніцку адкрываў сучаснікам і нашчадкам таямніцы многіх стагоддзяў – найперш, хоць бы блізкага, бурлівага XX стагоддзя. У прыватнасці, ён адным з першых зацікавіў расповедамі пра Грамаду і Таварыства беларускай школы (грамадска-палітычныя, культурна-асветныя суполкі ў Заходняй Беларусі. – **Рэд.**), якія ў 1930-я гады набралі немалую моц у першую чаргу на Гродзеншчыне. Петрыкевіч не проста ўзгадваў, а дэталёва, глыбінна расказваў пра велізарную ролю ў беларускай культуры Браніслава Тарашкевіча, Язэпа Лёсіка, Ігната Дварчаніна, Сымона Рак-Міхайлоўскага, чыю плённую дзейнасць гвалтоўна абарваў сталінскі рэжым...

Лёс Петрыкевіча быў няпросты ўжо тым, што ягоныя народзіны прыпалі на 31 ліпеня 1913 года (напярэдадні Першай сусветнай вайны і за пяць гадоў да стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі). Быў яшчэ падлеткам, калі родная Беларусь была разарваная на дзве часткі і падзеленая між Польшчай і Расіяй паводле Рыжскай дамовы. У беларусаў ніхто не пытаўся, чаго хочуць яны; у 1921 годзе ў Рызе варагуючыя бакі, Савецкая Расія і Польшча, заключылі сепаратны мір, на перамовы прадстаўнікоў Беларусі нават не запрасіўшы. Праігнаравалі «нейкую Беларусь». Петрыкевіч сталеў у часы, калі зашчэмленыя ў сваіх адвечных правах беларусы ў Заходняй Беларусі пачалі нацыянальнае змаганне. Ва Усходняй жа сталінізм пачатую ў першай палове 1920-х гадоў беларусізацыю згортваў, рыхтуючы спісы нацыянальнай інтэлігенцыя да знішчэння, якое фактычна пачалося з 1930 года. Звесткі-інфармацыя пра рэпрэсіі над беларускімі дзеячамі ў СССР і Польшчы, там і там, пастаянна дазіраваліся, па-свойму тлумачыліся, але ад гэтага не было лягчэй таму, каго знявольвалі, расстрэльвалі. «Дзве Беларусі» пад цяжкім, бесчалавечным націскам тыраніі, антыбеларускай палітыкі пачалі задыхацца, а наперадзе, як нікому з народаў Еўропы, Беларусі выпала чарговае пагібельнае наканаванне – падзеі 1941–1944 гадоў Другой сусветнай вайны... Тым больш, сусветная супольнасць ці не ў апошнюю чаргу клапацілася пра беларускі народ, які ў чарговы раз сцярпеў радасна-пераможнае ўварванне і гнеўнапомслівае адступленне заваёўнікаў. Колькі ў гэтым яшчэ кімсьці разгорнутых, але для большасці люду схаваных тысяч старонак!



Міхась Петрыкевіч, наводзячы мяне на такі лад мыслення, успамінаў, як ён сам ішоў да ўсведамлення сябе і Беларусі яшчэ навучэнцам беларускай Навагрудскай гімназіі і бачачы сваю «перадавую ролю» ў камсамоле. У 1931 годзе, калі ён быў на апошнім курсе гімназіі, польскія ўлады яго арыштавалі і кінулі ў турму, абвінавачваючы ва ўсім – і ў беларускім нацыяналізме, і ў бальшавізме (а ў гэты час у БССР знявольвалі самых адукаваных, сумленных і гаспадарлівых людзей за тое, што яны – беларускія нацыяналісты і польскія шпіёны!). Найперш за тое, што гэтыя людзі былі шчырымі патрыётамі Бацькаўшчыны, клапаціліся пра гістарычную памяць народа, пра развіццё яго мовы і культуры, што, дарэчы, было гарантавана ўрадамі Савецкай Расіі і Польшчы паводле Рыжскага міру 1921 года! Тым не менш за даволі сціплую культурна-асветную і падпольную камсамольскую дзейнасць навучэнец Петрыкевіч Навагрудскім акруговым судом быў прысуджаны да... трох гадоў зняволення і на дзесяць гадоў пазбаўлены грамадзянскіх правоў!

У 1940-м, ужо ў Савецкай Беларусі, ён, верачы ў абяцанні пра светлую будучыню Мінска і Масквы, паступае ў Беластоцкі педінстытут, дзе правучыўся мала: пачалася вайна. У час яе пераканана выбірае шлях змагання з фашызмам і ваюе ў партызанах. Там знайшоў і сваё чалавечае шчасце – Марыю Філон, з якой сціпла справіў вяселле 30 студзеня 1943 года ў Любчы.



*М. Петрыкевіч з дачкой Святланай, зяцем Яўгенам і ўнукамі Таняй, Людай і Міхасём. Вільня, 1980 г.*

...Пасля вайны, калі скончыў Мінскі педагагічны інстытут і панастаўнічаў, Петрыкевіч яшчэ больш пераканаўся: настаўніку мала толькі выкладаць і мець заробак на жыццё, ён, калі адчуў сябе сапраўдным інтэлігентам, павінен не шкадаваць свайго часу і здароўя, каб паклапаціцца пра народную памяць, каб часамі вельмі затурбаваныя самымі рознымі побытавымі клопатамі людзі адчулі сябе не проста насельнікамі, а НАРОДАМ з самае малое... 1000-гадовай гісторыяй і культурай!

Дзятлаўскі музей (выбачайце, я свядома не буду шмат расказваць пра яго, каб вы самі маглі пабачыць тое, што мы часамі суха называем словам «экспанаты») – гэта ў добрым сэнсе салаіўная песня краязнаўцаў і, зразумела, героя нашага нарыса. Яшчэ па яго ініцыятыве былі ўстаноўлены многія помнікі і адкрыты мемарыяльныя дошкі, а вуліцам прысвоена імя героя ці знакамітага земляка. Вяртанне гэтых іменаў не заўсёды было простым. Асабліва ў тых выпадках, калі кагосьці за яго нелаяльнасць да савецкай улады, за асветна-культурную работу ў час акупацыі (як, напрыклад, брата Я. Коласа Міхася Канстанцінавіча, які арганізоўваў школы, каб і ў вайну юнае беларускае пакаленне не расло дзікунамі) залічылі ў «нацдэмы», хоць яны на сваіх руках не мелі ні кроплі нявіннай народнай крыві. Менавіта такім Петрыкевіч мужна і настойліва дабіваўся аднавіць іхняе сумленнае імя і ў некаторых выпадках здолеў даказаць свае аргументы. Хоць не здолеў тады пераканаць мясцовыя ўлады, што, скажам, браты Луцкевічы, В. Ластоўскі, БНР – зусім не варожае беларускаму народу, што ўжо спакойна было сцверджана ў энцыклапедычным даведніку «Беларусь» (1995). «Спакойна сцверджана»... Але колькі было гора, слёз, крыві, трагедый, каб наблізіцца да гэтага!.. Абараняеш «тых» – значыць, і ты...

Напрыклад, толькі ў 1983 годзе ўдалося адкрыць мемарыяльную дошку Ігнату Дварчаніну ў в. Погіры. А помнік яму ў Дзятлаве (скульптар Ул. Лятун) – толькі ў 1989-м, калі самому энтузіясту, Міхаілу Фёдаравічу, споўнілася ўжо семдзесят шэсць гадоў і калі ён пераехаў жыць у Вільню да дачкі Святланы.

Пра музей, якому ён, сціплы чалавек, аддаў шмат намаганняў, не мог забыць аніяк. Як мог, розным чынам натхняў маладых калег. «М.Ф. Петрыкевіч быў чалавекам высокай культуры, энцыклапедычных ведаў. Пра кожную музейную рэч, экспанат, падзею мог расказаць цікавую і захапляючую гісторыю. Калі ён праводзіў экскурсіі – час для наведвальнікаў не доўжыўся, час ляцеў імгненна», – напісала ва ўспамінах адна з калег Тамара Палховіч. Яшчэ ў 1966 годзе гэта адзначыў і Уладзімір Калеснік, расказваючы пра падарожжа па Навагрудчыне, у якім яму з Янкам Брылём па зборы патрэбных матэрыялаў дапамог іхні даўні сябра Петрыкевіч. Нават тым, што мог сказаць: «Пры мне людзі будуць смялей расказваць. Апуджаны за акупацыю, не кожны захоча давярацца незнаёмым». Я. Брылю і Ул. Калесніку гэта дапамагло ўведаць тое запаветнае ад простых людзей, чаго яны іншым без Петрыкевіча ніколі не расказалі б. А пісьменнікі маглі не напісаць тое і так, як яны напісалі.

У Дзятлаве я сустрэлася з сынам Міхаіла Фёдаравіча Валерыем (пра яго таксама напісаў успаміны Ул. Калеснік). Пісьменнік цёпла ўзгадвае Валерыя-школьніка, пасля студэнта, які падтрымлівае ўсе бацькавыя памкненні, вучыцца ў яго. Сапраўды, мне пашанцавала пераканацца ў гэтым – шчыра любіць, берагчы і развіваць усё роднае. І, можа, галоўнае – быць верным бацькоўскім запаветам. Дачка Святлана актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці беларусаў Літвы. Яна сардэчна расказала мне падчас нашай сустрэчы ў Вільні, што бацька яе паміраў (гэта адбылося 3 сакавіка 1999 года) спакойна і годна, нібыта адчуваў: ён не ўсё здзейсніў, пра што марыў, але зробленае ім высокай вартасці. Пахаваны ён на новых могілках «Vilniaus Zunda», на ўчастку № 103-18-4. Зямля на тым узгорку камяністая, але там, дзе капалі магілу, нечакана аказалася... мяккаю, і магільшчыкі здзіўлена казалі: «Што ж гэта за такі чалавек, якога хаваем? Мабыць, незвычайны!»

Вось і я, праз столькі гадоў, узгадваю ды ўспамінаю Міхаіла Фёдаравіча. Памятаю яго амаль такім, якім дакладна апісаў Уладзімір Калеснік: «У светлым гарнітуры, саламяным капелюшы без следу заломаў, Міхаіл Фёдаравіч выглядае пачцівым, крыху старамодным інтэлігентам. Бледныя шчокі, паараны маршчынамі лоб, ля вачэй прытаілася зморанасць». Канечне, гэтая зморанасць была ад тытанічнай, не заўсёды відавочнай і шырокавядомай працы, якую ён рабіў дзень за днём, год за годам.

У Дзятлаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі яму прысвечаная даволі ладная экспазіцыя. Але гэтага, на погляд многіх, хто яго ведаў, недастаткова. Музей павінен насіць яго імя – імя заслужанага настаўніка Беларусі, барацьбіта з фашызмам і змагара за свабоду і незалежнасць нашай радзімы.

***Вольга ІПАТАВА***












*(Працяг. Пачатак у №№ 3–13)*

## Пачатак славы

**1908 год.** Ён для Янкі Купалы, якому было толькі за 25, прынёс яшчэ большае прызнанне як задуменнаму, часамі вясёламу, а часцей маркотнаму, але заўсёды мілагучнаму беларускаму паэту, якога прызнавалі глыбокім талентам усё больш і шырэй. Гэта адных шчыра радавала, а іншых – выводзіла з раўнавагі, злавала, штурхала да бязлітасных нападак на асобу, якая закрочыла па духоўным шляху ўвасаблення **новага грамадзяніна новай Беларусі.**

Той год для Купалы-чалавека пачынаўся нялёгка (усё тыя ж неадчэпныя фінансавыя турботы ), а для паэта – удала. Публікацыямі новых вершаў у «Нашай Ніве». Але вось сакавік-месяц пачаў уносіць свае карэктывы. Як вядома, у 1907 годзе ў аўстра-венгерскім Львове, дзе дазваляліся выданні на нацыянальных мовах, выйшла брашура І. Свянціцкага (іншае напісанне – Свяціцкі, 1876–1956, вучоны-славіст) «Адраджэнне беларускага пісьменства». Каб, як кажуць, фактамі даказаць свой аптымістычны погляд, аўтар змясціў у творы і два Купалавы вершы «Што ты спіш?» і «Там». Даказаў. У тым ліку і... цэнзару М. Васянцовічу-Макарэвічу, які асабліва... запыніў увагу на паэзіі і ў сваёй «адозве» заключыў: «...В конце же брошюры автор поместил два стихотворения: 1) «Что ты спиш?» Марка Бяздольнага... и 2) «Там» Янка Купала..., относительно которых он сам сомневается, могут ли они скоро увидеть дневной свет в России. Действительно, в первом стихотворении обращается внимание мужика на то, что ведь на его деньги делается все: царь и дворец себе строит, и войну ведет, а мужик с детьми помирает с голоду. Так пусть же он идет с косою в руке и требует возврата себе всего, что ему принадлежит, пусть кричит на весь мир, что с ним сделал царь! Во втором стихотворении описывается, как «там» борцы за свободу идут на виселицы, а царь стоит с нагайкой над теми, что своим потом поливают землю. Восстаньте же, пока царь еще не высосал всей крови из вас! Полагаю, что этого вполне достаточно для запрещения брошюры с невыдачей просителям».

Не можа адразу ж не кінуцца ў вочы: цэнзар робіць вернападданы данос. Але нават гэты акт цэнзарскай пільнасці не толькі выкрывае, а ўзвышае Купалу! Як сумленную і мужную чалавечую асобу і як творцу. Ён сказаў тое запаветнае, чаго не сказалі іншыя. Брашура І. Свянціцкага была забароненая, але водгалас пра гэта пайшоў. І на папулярную карысць нашаму земляку!



*Дарчы надпіс Купалы на фота У. Самойлу*

# Браніслаў Эпімах-Шыпіла – неардынарная асоба ў жыцці Янкі Купалы і ў гісторыі развіцця беларускай культуры

*(Працяг. Пачатак у № 13)*

Глыбокае і ўсебаковае вывучэнне Беларусі дало яму магчымасць стаць адным з найбольш дасведчаных людзей у розных пытаннях культурнага і грамадскага жыцця. І неяк так выйшла, што Эпімах-Шыпіла стаў неафіцыйным кіраўнаком беларускага студэнцкага руху ў Пецярбургу.

Але ўсё гэта не выпадкова. На мяжы стагоддзяў Эпімаху-Шыпілу, ды і іншым беларускім дзеячам, стала зразумела, што беларускі літаратурна-грамадскі рух неабходна пачынаць з асветніцкай работы, праз друк на роднай мове.

Толькі праз паўстагоддзя з'явілася магчымасць карыстацца ў друку роднай мовай. Гэта паспрыяла таму, што афіцыйна пачалі выдавацца кнігі, газеты-штотыднёвікі, а ў 1906 годзе (5 мая) было створана ў Пецярбургу выдавецтва з вельмі сімвалічнай назвай – «Загляне сонцэ і ў наша ваконцэ». Існавала як бы легальна, зарэгістраваўшыся ў пецярбургскага натарыуса. Але бяспекі поўнай не было. За выданне зборніка «Жалейка» Янкі Купалы чыноўніцтва прыцягнула Эпімаха-Шыпілу да судовай адказнасці, што пагражала яму трохгадовым турэмным зняволеннем і высылкай, чаго ўдалося пазбегнуць выпадкова, дзякуючы заступніцтву аднаго з членаў Думы, які спачуваў беларускаму руху.

Такое абвостранае стаўленне да друкаванага слова ў пачатку XX стагоддзя ў Беларусі было заканамерным, бо тут ішла барацьба не літаратурная, а палітычная. Асветніцкія і літаратурныя выданні сцвярджалі, што існуе і беларуская літаратура, і беларуская мова, і культура, а таму ўсё гэта разглядалася пэўнымі дзяржаўнымі чыноўнікамі як палітычны акт прэтэндэнцый на існаванне беларусаў як самастойнага народа. Суполка брала на сябе нямала. Вось што напісана было на вокладцы выдадзенай кнігі «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» (1906): «Таварыства ўстанаўляецца для таго, каб друкаваць і шырыць паміж людзей кніжкі беларускія і ўсё, што датычыць Беларусі».

Арганізацыя суполкі – гэта надзвычай важная старонка ў развіцці не толькі беларускага кнігавыдання, але і ў гісторыі беларускага грамадскага руху. Сам факт утварэння беларускага выдавецтва пасля такой доўгай забароны беларускай мовы сведчыць аб жыццяздольнасці беларускай нацыі, гэта імкненне інтэлігенцыі змяніць становішча свайго народа. І зразумела, чаму гэту справу ўзначаліў Эпімах-Шыпіла: ён быў старэйшым з новага пакалення беларускай інтэлігенцыі, найбольш падрыхтаваны і дасведчаны ў гісторыі развіцця беларускай літаратуры XIX стагоддзя, блізкі сябра Францішка Багушэвіча, збіральнік рукапісаў і рэдкіх выданняў.

Змясціўшы кантору выдавецтва ў сваёй кватэры, ён стаў фактычным кіраўніком суполкі. Сябры суполкі былі розных заняткаў, але іх усіх аб'ядноўвала адна ідэя – даць народу друкаваную кнігу. Таму актыўна падтрымлівалі задуму Эпімаха-Шыпілы і студэнт Вінцук Валейка, і інжынер Юры Іваноўскі, і настаўнік Уладзіслаў Калашэўскі, і служачы Уладзіслаў Сталыгва, і іншыя.

Не выпадкова і тое, што першай выдадзенай кніжкай суполкі быў лемантар для дзяцей – танюткая кніжачка для чытання, і гэта ў той час, калі не існавала ніводнай беларускай школы для дзяцей-беларусаў – гэта яўна выказаная нязгода з уладамі ў вырашэнні школьнай адукацыі.

А ў снежні 1906 года ў «Нашай Ніве» была змешчана аб'ява, што прымаецца перадаплата на выданне «Беларускія песняры», у спіс якога ўваходзілі зборнікі Францішка Багушэвіча, творы Дуніна-Марцінкевіча і яго пераклад «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча. Зразумела, чаму Пецярбургская судовая палата ўзбудзіла ў 1908 годзе супраць суполкі судовую справу, а пракурор характарызаваў выданне зборнікаў як заклік да класавай барацьбы і запатрабаваў арышту тыражу кніг, выдаўцоў і аўтараў. Адвакатам удалося выйграць працэс, але арышт з выдадзеных зборнікаў Багушэвіча быў зняты толькі ў 1910 годзе, а ў продаж яны паступілі ў 1911 годзе. Тыраж выданняў склаў 4 300 асобнікаў.

Нягледзячы на тое, што Эпімах-Шыпіла ніколі не рэгістраваўся ў пецярбургскага натарыуса ні як член суполкі, ні як яе кіраўнік, аднак у выніку рэпрэсій супраць выдавецтва, выкліканых выданнем зборнікаў Багушэвіча і Купалы, рэдактар зборнікаў Эпімах-Шыпіла прыцягваўся да судовай адказнасці.

Каталіцкае і праваслаўнае веравызнанні вымагалі многія выданні друкаваць і кірыліцай, і лацінкай, каб усіх беларусаў прыцягваць да роднага слоўка, а гэта былі двайныя выдаткі. Тым не менш беларуская кніга шырока пайшла да свайго народа, адкрываючы яму акно ў новы, невядомы дагэтуль свет.

Акрамя Янкі Купалы, суполка ўпершыню прадставіла чытачу зборнікі Цішкі Гартнага і Змітрака Бядулі. На вялікі жаль, 1913 год быў апошнім годам актыўнай дзейнасці суполкі «Загляне сонцэ і ў наша ваконцэ...» Асноўная прычына – гэта адсутнасць сродкаў. Толькі пры дапамозе доктара Ярэміча быў выдадзены зборнік Янкі Купалы «Шляхам Жыцця». У 1914 годзе суполка здзейсніла чацвёртае выданне зборніка Ф. Багушэвіча «Дудка беларуская», а ў 1915 годзе не было выдадзена ніводнай кнігі.

Верагодна, што прычынай таму была і Першая сусветная вайна. Аднак і ў час вайны былі спробы аднавіць справу. У 1916 годзе суполкай была выдадзена першая дзея п'есы Якуба Коласа «Антось Лата» пад назвай «Чарка ўсё на свеце робіць» з прыпіскай: «Працяг будзе».

Але добрыя намеры выдавецтва не збыліся. У гады Першай сусветнай вайны, як сведчыць ліст Эпімаха-Шыпілы да Язэпа Дылы, прафесар застаўся адзінокі, перажыў холад і голад, але затрымаў яго ў Пецярбургу багацейшы збор кніг ці (як назаве гэты збор сам прафесар) «дарагое сабранне беларушчыны».

За 10 гадоў свайго існавання суполка «Загляне сонцэ і ў наша ваконцэ» выдала 39 назваў кніг колькасцю звыш ста тысяч экземпляраў.

Суполка адыграла не малую ролю і ў станаўленні беларускага тэатра, выдаючы п'есы Каганца, Крапіўніцкага, Ажэшкі, Купалаву «Паўлінку»...

Эпімах-Шыпіла, як ніхто, разумеў, што выданне кніг можа зрабіць надзвычай многа для народа, што гэта з'яўляецца барацьбой за жыццё нацыі.

***Алена БУРБОЎСКАЯ,*** *намеснік дырэктара па навуковай працы Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы*

*(Працяг будзе)*

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–13)*

Паказальны абвінаваўчы акт, складзены памочнікам пракурора Мінскага акруговага суда, пад назіркам якога ўвесь час вялося следства, а пасля перароблены намеснікам пракурора Віленскай судовай палаты (18 красавіка 1908 года). Першы па-зямляцку заўзята патрабаваў пакарання для ўсіх з'яздоўцаў, другі сканцэнтраваў увагу найперш на двух, адным з якіх быў Якуб Колас. У адносінах да яго была ўжыта нават фальсіфікацыя экспертызы – у прыватнасці, наконт напісання адозвы да настаўнікаў. Я. Колас па меры сваіх пераездаў пісьмова паведамляў паліцыі сваё новае месца жыхарства, а таксама даваў пісьмовую распіску, што атрымаў копію акта «по обвинению меня в участии в сообществе, заведомо поставившим целью своей деятельности ниспровержение существующего в России общественного строя». Коласавым заступнікам стаў выдатны адвакат і грамадскі дзеяч К. Петрусевіч (1872–1949), той, які паспрыяў у 1898 г. правесці ў яго мінскім доме першы з'езд РСДРП і стаў яе членам, пазней, у Заходняй Беларусі, абараняў ад судовых праследаванняў Грамаду, М. Танка і іншых, а ў 1945–1948 гг. быў суддзя Вярхоўнага суда ПНР.

Як адбываўся той суд і як паводзіліся на ім старшыня, члены палаты, саслоўныя прадстаўнікі, намеснік пракурора, сведкі, эксперты, праваслаўны святар і іншыя, пра тое мы чыталі яшчэ ў школе ў трылогіі «На ростанях» – праўда, у пераказе сродкамі прозы. А калі хто жадае азнаёміцца з тым дакументальна, то трэба зазірнуць у даследаванне Г. Кісялёва, у раздзелы пад назвай «Пратакол судовага пасяджэння», «Рэзалюцыя», «Прысуд», «Пастанаўленне» (Определение). З іх можна даведацца, што Я. Колас сваёй віны не прызнаў, што не было графалагічна даказана пісанне ягонай рукою адозвы да настаўнікаў і што суд прыслухаўся да думкі абвінаваўцы-пракурора, але не палічыў патрэбным, як таго дабіваўся адвакат, правесці дадатковае расследаванне, а то ўвогуле апраўдаць ягоных падабаронных. Я. Коласа аб'явілі вінаватым, вынеслі рашэнне «заключить в крепость на три года» і тут жа, у зале суда, узялі пад варту.

Зусім не зважаючы на нестыкоўкі ў доказе віны Я. Коласа, у прысудзе сцвярджалася, што ён «вступил в преступное сообщество», сваёй рукой пісаў злашчасную адозву, а пасля зламысна «возбуждал» настаўнікаў, чым учыніў «преступное деяние», а ў канцы двудушна дадавалася, што «подсудимые приговором довольны, просят копию». Бачыце, радаваліся, што суд быў справядлівы, вызначыў іх, асуджаных, аплаціць судовыя і што турэмная крэпасць для іх будзе курортам! Можа, нават засмучаліся, што «ввиду отсутствия свободных мест в крепости», ім прыйдзецца нейкі час сядзець не ў непрыступных мурах, а ў звычайнай мінскай турме! Ды сам Я. Колас пісаў пра тое не з радасцю, а з абурэннем і гневам. Як і пазнейшыя даследчыкі яго судовай справы. У прыватнасці, дакументальна вывучыўшы яе, літаратуразнаўца С. Александровіч у даследаванні «Старонкі братняй дружбы» (Мн., 1960) пацвердзіў Коласава вызначэнне: яго зусім не выпадкова залічылі ў асноўныя абвінавачаныя і зусім не мелі намеру быць непрадузятымі, сумленнымі слугамі яе вялікасці Феміды. «Царскі ўрад, – падкрэсліваў даследчык, – пасадзіў у турму не проста настаўніка Верхменскага вучылішча, а вядомага ўжо тады беларускага паэта Якуба Коласа».

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*





***Жыццявызначальная ісціна: у вёсцы нашы карані! Вясковыя першавытокі мае традыцыйная народная культура, таму справа адраджэння і творчага пераасэнсавання лепшых народных традыцый усё часцей набывае вясковую прапіску: адметныя культурныя асяродкі развіваюцца найперш там, дзе ёсць для гэтага грунт. Таму спрыяе сама мясцовасць, багатая на традыцыі, на сведкаў старажытнай гісторыі. А яшчэ – нераўнадушнасць і творчыя памкненні мясцовай інтэлігенцыі.***

# Наша хата на дзівосы багата

Сельская бібліятэка вёскі Мікулічы, што на Бярэзіншчыне, не магла пахваліцца памерамі памяшкання і шыкоўным абсталяваннем. Ды гэта не перашкодзіла рэалізацыі задуманага: стылізаваць інтэр'ер пад этнаграфічны куток «Беларуская хатка». Спрошчана-сціплы вобраз вясковай бібліятэкі з печчу стаўся ў дадзеным выпадку казырным варыянтам. Умела стылізаваная бібліятэчная печ стала сакральнай зберагальніцай нязгаснага агню цікавасці да мінуўшчыны, дапамагла ўвасобіць традыцыйнае абсталяванне сялянскай хаты. Гэтае абсталяванне, як вядома, было нескладаным і вылучалася практычнасцю і эканамічнасцю выкарыстання жылой плошчы, таму нават на невялікай плошчы бібліятэчнага памяшкання лёгка ўдалося стварыць этнавызначальнае асяроддзе беларускай хаты былых часоў.

Цяпер наведвальнікі Мікуліцкай бібліятэкі маюць унікальную магчымасць зайсці ў хату XIX стагоддзя, як бы перанесціся ў мінулае, і на свае вочы пабачыць старадаўнія рэчы ў звыклым для іх асяроддзі. Кожны куточак бібліятэчнай «хаткі» стылізаваны з улікам строга акрэсленых функцый: печ – бабін кут – чырвоны кут... Самаробныя прылады і інструменты вабяць асаблівай сялянскай прыгажосцю, здзіўляюць выключнай прастатой, выразнасцю, надзейнасцю. Інтэр'ер традыцыйна ўпрыгожаны саматканымі палатнянымі вырабамі. Гэтыя творы рэдкай каларытнасці і сапраўднай беларускасці – узнёслая паэма розуму і таленту творцаў, гімн жанчынеруплівіцы, летапіс жыцця і народных светапоглядаў з іх павучальнай маральна-практычнай філасофіяй.

«Беларуская хатка» стала наглядным дапаможнікам пазнання бацькаўшчыны, далучэння сучаснікаў да яе культава-абрадавых самабытных каранёў і традыцыйнай народнай культуры. Душа народа, яго характар, светапогляды, духоўная сутнасць, мерка чалавечнасці і працавітасці – усё ўвасоблена ў абсталяванні сялянскага жытла. Так, лічылася, што старая вялікая печ засцерагае ад бяды і небяспекі. Кутні слуп яе зваўся «дзедам» і параўноўваўся з духам продкаў – заступнікам людзей і зберагальнікам жытла. Печ суадносілася нават з этыкай паводзінаў. Калі хацелі спыніць нясціплыя размовы, расказчыку нагадвалі: «Печ у хаце!» Ганаровае месца ў хаце – покуць. Тут садзілі дарагога госця, ставілі першы сноп ураджаю, у якім быццам бы жыве бог Жыцень, змяшчалі абразы, малітоўнікі. Стол выконваў ролю своеасаблівага хатняга алтара, да яго ставіліся з асаблівай павагай. Перамена месца, дзе стаяў стол, адбывалася толькі ў выключных выпадках. Шырокія масіўныя лавы лічыліся каштоўнасцю і перадаваліся ад бацькі да старэйшага сына.

«Беларуская хатка» Мікуліцкай бібліятэкі – гэта не музейная экзотыка, не элемент дэкору, а асяродак выхавання і далучэння сучаснікаў да вытокаў самабытнасці. Тут праходзяць не толькі аглядныя экскурсіі «У адведкі да хаты», але і цыкл мерапрыемстваў «Абрады і святы беларускай хаты» на аснове ўзноўленых вясковых традыцый. Праўду ў народзе кажуць: «У хату зойдзеш – настаўніка знойдзеш». На правах «хатняй гаспадыні» – бібліятэкар Раіса Іванаўна Шалупенка. А яшчэ – у ролі бабулі Ганны – знаўца вясковага побыту і фальклору Ганна Іванаўна Пянкрат. «Бабуліны гісторыі» маюць вялікі попыт у маладых. Яны прыходзяць, каб атрымаць сапраўдную асалоду ад таго, як бабуля, седзячы за калаўротам-самапрадкай, нетаропка вядзе аповед. З цікавасцю слухаюць падлеткі пра штодзённыя павер'і і рытуалы: прачнуўся – з левай нагі не ўставай. Але менавіта яе трэба абуваць першай, каб не балелі зубы. Дзвюм дзяўчынам не рэкамендавалася выцірацца ручніком адначасова, каб кавалера не давялося дзяліць. Рытуал застолля забараняў стукаць лыжкай па стале, каб не запрасіць нячыстую сілу. З нажа ясі – злым будзеш. Перавернуты бохан хлеба, пакладзены на стол, – да непажаданага павароту лёсу. Спецыяльныя засцерагальныя абрады-рытуалы даводзіліся продкамі падчас наваселля (уходзінаў, уваходзінаў), нараджэння дзіцяці, вяселля, пахавання. Бабуліны гісторыі пра дзявочыя ўборы дапаўнялі выставы рэчаў з куфэрка – вышываных льняных сарочак, хвартушкоў і жаночых хустак – на святы, на будзень, у царкву, на пост, на Вялікдзень, вугальных прасаў і пранікаў для бялізны – і дасціпныя народныя павучанні – правілы дзявочых вячорак «Дзяўчына, гуляй, ды справу знай!», «Найлепшы дзявочы пасаг – залатыя рукі». На вячорках «Танцуйма ад печы» дзяўчаты даведаліся пра старадаўнія вясковыя танцы. Шмат пазнавальнага ў бабуліных аповедах пра рэчы: знаёмыя незнаёмцы – драўляная лыжка, дзяжа, ступка, куфар, пранік, сярпок – жаночы памагаты, ручнік – спадарожнік жыцця ад народзін да вечнасці. Аповед пра прылады працы дапаўняла трыбуна прыказак «У сваёй хаце і качарга маці». Часта гучаць у бібліятэчнай «хатцы» прыказкі і прымаўкі пра працавітасць, гасціннасць, практычную гаспадарчасць, узаемаадносіны членаў сям'і, аб ролі гаспадара ў хаце «Тут мудрасць продкаў у хатуль схавана!» Цыкл «Жывы фальклор» уключае эстафеты зычэнняў і пажаданняў, звязаных з сямейнай абраднасцю (народзінамі, вяселлем, провадамі ў войска, уваходзінамі ў хату), а таксама незлаблівыя праклёны ў народным стылі: «Каб твае ўнукі бульбу жменямі на базары куплялі!», «Каб табе ручкі ў кручкі, ножкі – у качарожкі!»

Пасядзелкі «У гасцях у бабулі» носяць прыемны характар: смакаванне блінцоў у народных традыцыях (калі на Масленіцу на кожнага беларуса даводзілася не менш за 10 бліноў); ласаванне ляснымі ягадамі з прыгаданым рытуалам першага збору ягад «Першую ягадку ў роцік – каб не балеў жывоцік»; піццё духмянай травяной гарбаты з прэзентацыяй старадаўняга «Лекавага зёлачніка»; «Калатуха», «Бабка», «Дранка» і іншыя прысмакі з печы як пачатак размовы аб рэцэптах са «Старадаўняй кулінарнай кнігі». Смакаванне духмянага хлеба, печанага на дубовым лісце, суправаджалася размовай аб хлебе ваеннага ліхалецця, калі ў хлеб, апроч мякіны і лебяды, дабаўлялася лісце верасу, маладой папараці, кветкі канюшыны, бярозавая кара...

Як старадаўнія рэліквіі ўспрымаюцца юнымі вяскоўцамі альбомы з пажоўклымі фотаздымкамі, паштоўкі, папяровыя грошы мінулых стагоддзяў, калядныя віншавальныя паштоўкі, абразы – сямейныя рэліквіі, дзе галоўнае месца займае ікона 1890 года.

Справядліва кажуць: «Свята памірае, калі яго не святкуюць». Святы мікуліцкай хаты даволі разнастайныя. Тут і свята печы з абрадам «Жаніцьба коміну» і інфарм-аукцыёнам «Пячны інвентар, або Хто ля печы гаспадар?» Свята беларускай хаты з абрадам «Пусканне сонца ў хату» і абвяшчэннем акцыі «Ад бацькоўскага парога – цвярозая дарога»; свята дбайных гаспадынь «Мужык – як шкарпэтка, абы жонка – як кветка». Свята каравая ўключала інфарміну «Каралева печы і хаты – хлебная лапата», дзе даводзіліся ахоўныя яе якасці: у час навальніцы, каб зберагчы будынак ад маланкі, хлебная лапата выстаўлялася на двор. Шмат цікавай і карыснай інфармацыі змяшчала паэтычная эстафета «Хлебныя словы» з расшыфроўкай маральна-духоўнага зместу слоў скарынка, скіба, луста, акраец, каравай. З гумарам прайшло свята сямейнай гумарэскі «Кожнай шыбаю дом усміхаецца». Вясковыя прыкметы і абрады, звязаныя з вядзеннем хатняй гаспадаркі, узноўленыя мікуліцкімі краязнаўцамі, даводзіліся на святах «Бульба, прымай паклон ад земляка», «На падворку – певень гаспадар».

Часты госць бібліятэчнай «хаткі» настаўнік, член грамадскага аб'яднання Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Л.М. Красоўскі. Гэта з яго ўдзелам праведзена акцыя «Беларусам нельга звацца, калі роднай мовы цурацца», свята мясцовай гаворкі «Словы з бярэзінскай прапіскай», трыбуна сваяцкіх тытулаў «Мы з розных хат, ды кожны кожнаму – і кум, і брат, і сват», урок застольнага этыкету «За сталом моўчкі сядзелі і гучна гыркацца не смелі», літаратурная экскурсія па падворку «Былі тут розныя будынкі» паводле паэмы Я. Коласа «Новая зямля». Сёлета да 125-годдзя Я. Коласа ў «Беларускай хатцы» прадугледжаны цыкл літаратурна-фальклорных перагудаў «Кніга з жыццём пераклікаецца» па гэтай легендарнай паэме, якую справядліва называюць энцыклапедыяй жыцця.

***Традыцыйна па-беларуску запрашае да сябе ў адведзіны мікуліцкая «Беларуская хатка»: «Калі ласка, у нашу хату!», гасцінна і ветліва расчыняючы дзверы перад кожным наведвальнікам. Тут ёсць што пабачыць і пачуць таму, хто не ачарсцвеў душою, хто небыякавы да культурнай спадчыны Бацькаўшчыны. Спадчына пашырае межы нашых ведаў, робіць нас духоўна дужымі, жыве і насычае духоўнасцю нашы душы.***

***Тамара КРУТАЛЕВІЧ,***
***загадчык аддзела маркетынгу Бярэзінскай ЦБС***




*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 12–13)*

Моцна хвалявалі Купалу сур'ёзныя і працяглыя непаладкі ў нашым грамадска-рэлігійным жыцці, асабліва панаванне тут чужых для беларусаў моваў – рускай і польскай. Высокае духавенства выкарыстоўвала гэта ў якасці падставы, каб першую катэгорыю вернікаў адносіць да рускай нацыянальнасці, другую – да польскай. Нягледзячы на абсалютную адсутнасць такога падыходу да вызначэння нацыянальнай прыналежнасці беларусаў, пэўная частка іх і сапраўды пачынала лічыць сябе за рускіх ці за палякаў. Падобнае этнічнае раскраданне беларусаў у найбольшай ступені назіралася на тэрыторыях, сумежных з рускімі і польскімі губернямі. Каб унікнуць беспадстаўнага, шкоднага падзелу адзінага беларускага народа на рускіх і палякаў, Паэт звяртаецца да яго з такімі праўдзівымі словамі:

*«Помніма, братцы, ці мы католікі, ці мы праваслаўныя, – мы беларусы, а Бацькаўшчына наша – Беларусь. Не мяшайма справы рэлігіі з нацыянальнасцю».*

I ўсё ж мяшалі і мяшаем. Асабліва гэта відавочна ў дзейнасці праваслаўнай царквы. Яе непрыхаванай русіфікатарскай палітыцы ва ўсім спрыяюць і свецкія ўлады Беларусі. Атрымаўшы дазвол на беспераШкоднае вядзенне ў афіцыйных сродках масавай інфармацыі рэлігійна-асветніцкай прапаганды, праваслаўныя духоўныя асобы выкарыстоўваюць у гэтых мэтах практычна толькі рускую мову. З іх вуснаў мы часта чуем, што паміж беларусамі і рускімі няма амаль ніякіх этнакультурных адрозненняў, што яны ёсць адзіны праваслаўны народ – рускія, мова як сродак камунікацыйных зносін павінна быць толькі адна – руская. Цвёрда перакананы, што служыцелі праваслаўнай царквы хутчэй бы пазачынялі свае храмы, чым дазволілі ў іх весці набажэнствы на беларускай мове. Дарэмна ўпіраецеся. Яна ў нас ад Бога, і рана ці позна беларусы будуць звяртацца да Усявышняга не на чужой, а на роднай мове.

Напісанае мною вышэй – гэта далёка не ўсе запаветы Купалы свайму роднаму народу. Але, як бачым, і яны не знайшлі так жаданага і неабходнага ўвасаблення ў нашым жыцці. Не слухаем свайго Настаўніка. А трэба было б слухацца. Дый не толькі нам, але і нашым суседзям. Звароты паэта да іх не страцілі сваёй правамернасці і пасёння. Вось адно з іх у апублікаваным у 1919 годзе артыкуле «Торжышча»:

*«Дайце волю народам самім будаваць сваю долю. А тады гэтыя народы скажуць сваё шчырае слова аб вашай культурнасці...»*

Будаваць беларусам сваю долю не жадаюць даць многія палітыкі і ідэолагі Расіі, упарта распаўсюджваючы міф, што толькі ў яе складзе наш народ не будзе мець аніякай пагрозы звонку, атрымае спрыяльныя ўмовы для свайго эканамічнага і культурнага развіцця. А што ў рознага роду дакументах аб утварэнні саюзнай дзяржавы з усёй катэгарычнасцю адзначана, што беларуская мова не будзе ў ёй мець статусу афіцыйнай, ніхто не хоча адкрыта сказаць. Мабыць, ведаюць, што без такога статусу для беларускай мовы наша і без таго моцна размытая нацыянальна-культурная адметнасць адразу ж трапіць пад нож у саюзнай дзяржаве, беларусы канчаткова русіфікуюцца і ўжо ніколі не ўзнімуць голас у абарону сваіх палітычных правоў. I ўсё ж нашай палітычнай незалежнасці найбольшую пагрозу нясе не вонкавы, а ўнутраны фактар. Праціўнікам дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, яе культурна-моўнага жыцця на ўласным падмурку ўдалося пахіснуць веру вельмі многіх людзей у магчымасці дасягнення прыстойнага чалавечага шчасця на роднай зямлі без падтрымкі суседзяў.

Як непазбежны вынік, сёння для нашага грамадства характэрная празмерная пасіўнасць ва ўсім, што датычыць нацыянальнага жыцця. Калі нават хто і бачыць яго ўсё больш пагрозлівую дэградацыю, асабліва не кідаецца ратаваць народ ад культурна-моўнай асіміляцыі, палітычнага бяспраўя. Словам, робім не так, як вучыў наш Прарок Купала:

*«Супольна і згодна працаваць над адраджэннем сваёй вялікай старонкі, здабываць для сябе лепшую долю – вось наша праўдзівая мэта ў жыцці».*

Такую ж долю ніколі не здабудзеш па-за нацыянальнай прасторай, таму трэба ўсяляк імкнуцца не даць узарваць дзяржаўны суверэнітэт Бацькаўшчыны, разбурыць яе нацыянальны культурна-моўны патэнцыял чужацкімі ўплывамі, якія набудуць нечуваную моц, калі мы перастанем быць паўнаўладнымі гаспадарамі роднай зямлі.

Янка Купала ў 1920 годзе ў артыкуле «Справа беларускага нацыянальнага гімна» пісаў:

*«Мы, беларусы, дзякуючы ўсяцкім гістарычным і палітычным безгалоўям нашай бацькаўшчыны, вечна цягнуліся ў хвасце сваіх суседзяў ды яшчэ і цяпер не можам у шмат якіх справах раўняцца з імі».*

Асобам, што засумняваюцца ў правамернасці параўнання цяперашняга нацыянальнага жыцця Беларусі з тым, якім яно было ў 20-х гадах мінулага стагоддзя, парэкамендую цвяроза глянуць на рэальнасць яе дзяржаўнага суверэнітэту, сацыяльны статус роднай мовы, месца нацыянальнага фактару народнай адукацыі і пастарацца супаставіць усё гэта з іх адпаведнікамі ў нашых суседзяў: Латвіі, Літве, Польшчы, Расіі і Украіне.

***Леанід ЛЫЧ,***
***доктар гістарычных навук, прафесар***

***20 сакавіка 2007 года беларускаму паэту і пісьменніку, удзельніку Вялікай Айчыннай вайны, ураджэнцу Жлобінскага раёна Хведару Жычку споўнілася 80 гадоў.***

***Ён (аўтар многіх кніг паэзіі і прозы, перакладаў, асобных артыкулаў) вельмі любіць сваю малую радзіму – Стрэшынскую зямлю (з 1956 года Стрэшынскі раён увайшоў у склад Жлобінскага. – М.Ш.). У адным са сваіх вершаў ён прызнаваўся:***

***Яшчэ шляхоў у родны кут***
***не замялі мне завірухі.***
***Там я забуду боль пакут***
***і гаркату шчымлівай скрухі...***

***Родныя палі, лясы, паўнаводны Дняпро, шчырыя сэрцам людзі, якія жывуць тут, былі і застаюцца для яго невычэрпнай крыніцай для творчага натхнення. Пра ўсё гэта і многае іншае распавядае сам Хведар Жычка ў сваёй вялікай перапісцы з аўтарам гэтага артыкула (у перыяд з пачатку 1990-х па 2007 год уключна). Даём слова самому Хведару Жычку.***

# «Я – дзіця XX стагоддзя...»

## «Мой жыццёвы шлях»

«Пасёлак з касмічнай назвай Марс (сёння не існуе. – М.Ш.), дзе я нарадзіўся 20 сакавіка 1927 года, налічваў дваццаць двароў. Дваццаць беззямельных сялян вярнуліся з франтоў грамадзянскай вайны і арганізавалі ў маёнтку Асцерманск камуну «Ветэран». Але праз некалькі гадоў камуну распусцілі, не членаў папрасілі выселіцца з панскіх палацаў. Куды? "Хоць на Марс", – адказаў нейкі адукаваны начальнік. Сяляне вымалілі дазвол на пасяленне ў Мышкоўскім лесе. Адсюль і назва пасёлка – Марс.

...У пасёлку было мала пісьменных людзей. Жылі забабоны, вера ў «нячыстую сілу», «вядзьмарства» і сны. Старэйшыя за нас хлопцы і дзяўчаты, якія нарадзіліся яшчэ ў камуне, звычайна заканчвалі не больш за 5–6 класаў, кідалі школу, жаніліся і забывалі ўсё на свеце. Адзін, хто паехаў у горад вучыцца, быў Радзівонаў Колька (беларускі пісьменнік Мікола Лупсякоў (1919–1972). – М.Ш.)[1].

...Мой бацька быў рахункаводам калгаса, умеў напісаць любую даведку і адзін з дарослых чытаў кніжкі. Чытаў ён звычайна ў доўгія зімовыя вечары, пры святле газнічкі... Так я пазнаёміўся з "Дрыгвой" і "Новай зямлёй" Коласа, з першымі дзвюма кнігамі "Ціхага Дона" Шолахава».

***

«У нашым родзе не было паэтаў... Хаця да каранёў майго роду і дакапацца мне не суджана: дзеда па бацьку і дзеда па маці я не ведаў, бо яны памерлі раней, чым я нарадзіўся, – не засталося ні фотаздымкаў, ні дакументаў. Вось і ўся генеалогія: адна бабуля, матчына маці, бацькавы і матчыны браты і сёстры – мае дзядзькі і цёткі... Бацька спрабаваў пісаць нататкі ў раённую газету, іх зрэдку друкавалі... Матчын брат Лук'ян і яе пляменнік Пятроігралі на гармоніку. Ад іх навучыліся і мы з братам Васілём... Маці мая і яе сёстры – мае цёткі – добра спявалі...»

***

«Са жніўня 1941 па 1 снежня 1943 года я жыў у сваім пасёлку Марс, акупаваным фашыстамі, працаваў на зямлі... Вызваленне прыйшло 1 снежня 1943 года. Утварыўся фронт, і мы аказаліся на самай мяжы, за ўзгоркам... і фашысты абстрэльвалі, і нашы насельніцтва не выгналі, яно патрэбна было, каб хоць неяк абслугоўваць чырвонаармейцаў. І так 8 месяцаў... Вясной 1944 года прызвалі хлопцаў 1926 года нараджэння, восенню – 1927-га. Нас прывезлі ў разбіты бамбёжкамі Мінск, пастроілі ў калону і пад музыку "Развітанне славянкі" павялі ва Уручча, дзе нас перадзелі ў вайсковае адзенне і размеркавалі ў казармах. Артдывізіён, куды я трапіў, быў самы адукаваны – 7 класаў. Тут трэба было рашаць задачы па фізіцы, матэматыцы...» (Часць, у якой служыў Хведар Жычка, рыхтавалі ўжо да адпраўкі на фронт, але раней прыйшла Перамога, пасля чаго наш зямляк трапіў у радыёлакацыйную службу на Балтыцы. – М.Ш.).

***

«Восенню 1948 года мяне выклікалі ў Мінск на рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў... Я ўпершыню ўбачыў жывых пісьменнікаў, творы якіх вывучаў у школе: Якуба Коласа, Кандрата Крапіву, Алеся Якімовіча, Міхася Лынькова... У 1949 годзе запрасілі на з'езд пісьменнікаў БССР... У 1951 годзе быў удзельнікам Усесаюзнай нарады маладых пісьменнікаў... У тым жа 1951 годзе я дэмабілізаваўся і паступіў на працу ў газету "Чырвоная змена", вымушаны быў ездзіць па раёнах, пісаць пра вывазку гною на палі».

***

«Шмат гадоў свайго жыцця я аддаў рэдактарскай працы: адкрываў маладыя таленты... Рабіў гэта з вялікім задавальненнем.

...З 1960 года працаваў рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва БССР, якое потым перайменавалі ў выдавецтва "Беларусь", з 1963 па 1965 гады працаваў у рэдакцыі часопіса "Бярозка", адкуль зноў жа перайшоў у выдавецтва "Беларусь"».

***

«Я знаходзіўся паміж двух агнёў (маецца на ўвазе час працы Хведара Жычкі галоўным рэдактарам штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" (1972–1976). – М.Ш.) – паміж ЦК і Саюзам пісьменнікаў, сярэдні ўзрост якога, дарэчы, падыходзіў да 60 гадоў. За што толькі не цягалі мяне ў ЦК! Нават за пераблытаныя строфы ў вершах... Быць начальнікам – праціўна маёй натуры, вось у чым парадокс! А яны думалі, што я трымаюся за сваю пасаду».

***

«...Першая публікацыя (нізка вершаў у часопісе "Полымя", № 10, 1947 г. – М.Ш.) акрыліла мяне. Хацелася пісаць і пісаць. Але пазнаць сакрэты паэзіі не так проста, як некаму можа падацца. Цяжкая гэта дарога, усланая сумненнямі, загадкамі, заваленая вялізнымі валунамі падробак, усыпаная смеццем пустаслоўя, кан'юктуры, плагіяцтва...»

***

«Прозу пісаць і выдаваць я пачаў раней за паэзію... Пісаў пад вялікім уплывам Кузьмы Чорнага...»

***

«Было ўсё: поспех і памылкі, узлёты і правалы, захапленні і расчараванні... доўгі творчы крызіс. Пераставаў верыць у свае журналісцкія і пісьменніцкія здольнасці, у адчаі намерваўся паехаць у калгас, стаць механізатарам.

Падтрымаў Міхась Клімковіч, які працаваў кансультантам у Саюзе пісьменнікаў. Ён амаль сілком пагнаў мяне ў літаратурны інстытут імя А.М.Горкага... Каб не трапіць у лік «творчески не состоятельных», я пісаў і апавяданні, і сцэнарыі. Працуючы ў той час у газеце "Піянер Беларусі", нясмела падступіў да свайго другога "канька" – дзіцячай літаратуры. У 1956 годзе выйшла першая кніга апавяданняў-фельетонаў для дзяцей "Сукенка ў крапінку", напісаная сумесна з П. Беразняком... Аповесць «Каштаны "Масквіч"» (1959) была першай маёй самастойнай кнігай.

...Для юных чытачоў пісаць прыемна – ведаеш, што кнігу прачытаюць не толькі крытыкі».

***

«Як я сам адношуся да сваёй прозы для дзяцей? Лічу лепшымі з іх – аповесці "Піфагоравы штаны", "Зброю бяруць сыны", "Не кажыце маме", "Дзень будзе ясны" (гэта мая аўтабіяграфія, маё дзяцінства, маё юнацтва, усё без выдумак, у тым ліку і імёны герояў)».

***

«Лепшым маім сябрам на пачатку творчай дзейнасці быў Аляксей Пысін... На нарадзе маладых пісьменнікаў у 1948 годзе я яго ўбачыў у сіняй (міліцэйскай) гімнасцёрцы, і мы дамовіліся перапісвацца...»

***

«Пісаў і вершы. Першы паэтычны зборнік ("Стой на вахце, сэрца". – М.Ш.) выйшаў у 1961 годзе, калі мне споўнілася 34 гады».

## «Я – перакладчык»

«Перакладчыцкая дзейнасць дужа цяжкая. Але ж і карысная... Перакладаю я тое, што яшчэ няма на беларускай мове, хаця рукі чэшуцца перакладаць і тое, што перакладзена».

***

«Вельмі люблю старыя формы, рускую класічную літаратуру, многа перакладаю паэтаў XIX-XX стагоддзяў, правяраючы магчымасці беларускай мовы... Даводзілася мне перакладаць і з японскай, і з кітайскай моў, але з дапамогай рускіх перакладаў. Аднак хто ведае, на якой адлегласці яны ад арыгіналу, таму і нідзе не друкую...»



*Хв. Жычка з жонкай*

*Фотарэпрадукцыя Анатоля Каляды*

***

«Пераклаў на беларускую мову многа вершаў Лесі Украінкі і Адама Міцкевіча...»

***

«Сябры ў мяне былі і ў Кіеве, і ў Ленінградзе, і ў Сафіі, і ў Варшаве, і ў Алма-Аце, і ў Празе, і ў Брацілаве, і не толькі перапісваліся – сустракаліся. Гэта цікавая старонка маёй біяграфіі... Амаль усе мае сябры – паэты, творчасць якіх я любіў, перакладаў на беларускую мову, перакладаў не толькі з дапамогай слоўніка...

Мой зборнік перакладаў "Вокны ў сад" увабраў у сябе можа толькі сотую частку перакладзенага мною. Польскую, балгарскую, славацкую, чэшскую літаратуру я чытаў амаль без слоўнікаў...»

***

«Чэшскую і славацкую мовы я вывучаў у Карлавым універсітэце (Прага) і універсітэце імя Яна Каменскага (Браціслава)».

***

«З'яўляюся ўкладальнікам анталогіі "Славацкая паэзія" (1990)».

***

«Пераклаў для Віцебскага тэатра імя Якуба Коласа драму У. Шэкспіра "Генрых VI" (пастаўлена ў 1988)».

***

«Перакладаў творы А. Ахматавай, Ю. Друнінай, В. Бергольц, А. Рывінай, К. Шавялёвай. Л. Шчыпахіной (з рускай), Зульфіі (з узбекскай)...»

***

«Гэта памылковая думка, што пераклад дапамагае вывучаць тую мову, з якой перакладаеш, у першую чаргу ён дапамагае вывучаць тую мову, на якую перакладаеш».

## Погляд на час і літаратуру

«Час цяпер такі смутны (напісана ў снежні 1996 г. – М.Ш.), што і я не маю магчымасці часта напамінаць пра сябе: і здароўе ўжо не зусім, і праз друк творамі не ўдаецца "крыкнуць" – прэса вершаў не любіць, і выдавецтвы збяднелі».

***

«Кажуць: паэзія адмірае, яе мала хто чытае, ёй мала хто цікавіцца. Гэта няпраўда! Сапраўдная паэзія жыве, не памірае і ніколі не памрэ, бо... чалавек вечна захапляецца прыгажосцю, імкнецца душой да незвычайнага, узвышанага, боскага».

***

«Літаратурная праца – вельмі адказная справа, якая патрабуе не толькі вялікай і трывалай адукацыі, таленту, але і высокай культуры, сумленнасці, сціпласці».

***

«Толькі неразумныя і бяздарныя людзі імкнуцца пры жыцці "залезці" ў класікі».

***

«Ва мне была і ёсць вера ў Вышэйшую Справядлівасць... Вера ў перамогу Справядлівасці, лічу, патрэбна пісьменніку, інакш ён будзе славіць адпетых грэшнікаў... У маіх творах такога, здаецца, няма».

***

«Славы не люблю, я яе баюся... назіраючы, як яна (слава) псуе людзей, забівае таленты, знішчае ўсё добрае, станоўчае».

***

«Трэба было б з'ездзіць памаліцца ў Стрэшынскую царкву... Не мае значэння, куды пакладуць тваё цела, абы душа трапіла ў рай... пішучым тавырышам пра рай для душы наўрад ці можна марыць! Будзем маліць-прасіць Усявышняга злітавацца і ўпусціць хаця б у сенцы, на нары».

***

«Трэба пільней глядзець у сённяшні дзень».

## «Хто я?»

«Я – дзіця XX стагоддзя і ў новыя абставіны не ўжываюся. Так і павінна быць: кожны – дзіця свайго часу».

***

«Па натуры я аптыміст і ніколі не апускаў рукі, прадчуваючы бяду».

***МІКАЛАЙ ШУКАНАЎ,***
***супрацоўнік жлобінскай раягазеты «Новы дзень», краязнавец***

[1] Ад рэдакцыі. Выдатны беларускі празаік і, як падкрэсліваў неаднойчы Я. Брыль, незаслужана забыты.





**Дарога... Дарога... Трэба ж адпачыць**

*Фота Ігара ГРЭЧКІ*

## Як я ажаніўся

Раскажу я вам пра даўнейшыя часы, як жаніліся хлапцы нашы. Яны мелі па год семнаццаць-васемнаццаць. А я маю год дваццаць пяты і жыву нежанаты. Маю матку, два браты. Гавораць: «Жаніся скарэй ты. Не трэба цябе будзе ні абшываць, ні абмываць. Добра будзе з жонкаю паляжаць».

Сеў я дый думаю пра сваё гора, што трэба будзе ехаць у сваты скора. Устаў я раненька, памыўся, белым рушнічком уцёрся, адзеў рукавіцы і паехаў, куды мяне сваталі з'явіцца. Уехаў у вёску, аж мяне хлопцы перанялі і дом яе ўказалі: «Вунь той дом тваёй дзявіцы, дзе чырвоныя акніцы».

Уз'ехаў на двор, гляджу на яе ачмі, а яна да мяне – плячмі. Шваргы ўвазналі і ў дом мяне зазвалі. Увайшоў у дом, стаю ціха каля печы. А шваргы гавораць пра свае рэчы. Шваргы ўсё перагаварылі, белы абрус рассцялілі, віна, гарэлкі настаўлялі і мяне з ёй туды пазвалі.

Гавару ціха да свата:

– На пасаг ці багата?

– Пасля пажару і вайны – дзвесце рублёў, дзесяць коней, два валы – гэта будзе пасаг немалы.

Дзе чорт браў старую гаргару з печы. І тая стала гаварыць свае рэчы:

– Аднак вас ёсць маладых двое, даю вам на задатак курэй трое...

І так я там разгаварыўся, што праз пару тыдняў ажаніўся...

**Запісана ў в. Шыпкі Вілейскага раёна**

# Свята мёду і здароўя

*Непадалёк ад Мінска ў маляўнічым кутку, які дае сілу, энергію сваімі шумлівымі бярозамі, соснамі, ліпамі, рознымі кветкамі, знаходзіцца пасека Свята-Елісавецінскага манастыра. Мёд разнатраўя, каштанавы, ліпавы, грэцкі і іншыя асвечаны для галоўнага багацця – здароўя чалавека.*

*Арганізатар мядовага свята, яго прадзюсер Юрый Аляксеевіч Радзькоў імкнецца аб'яднаць пчаляроў Беларусі і Расіі дзеля здаровага ладу жыцця. Дабрачынныя акцыі ў дзіцячых дамах, цэнтрах рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў, а таксама калоніях прыносяць радасць, цудоўны настрой разам з салодкім падарункам – мёдам.*

*На мядовых святах, якія ўжо некалькі разоў праходзілі ў Гомелі, Мінску, Полацку, Калінкавічах, не толькі можна пакаштаваць салодкі мёд, але і прыняць удзел у культурна-вясёлай праграме з песнямі, танцамі ансамбля ГА «Беларускі фонд культуры» «Вясёлыя музыкі», удзельнікі якога пераўтвараюцца ў пасечнікаў, а дзеці водзяць карагоды, спяваюць беларускія песні і частушкі мядком.*

*У добры шлях «Свет мёду»! Усмешкі дзяцей, здароўе – гэта радасць, як бацькоў, так і ўсёй Беларусі.*

*Шмат добрых слоў сказана пра пчалароў, пчолак! А вось як адказваюць на пытанне «А чаму пчолы не кашляюць?» – «Таму што мёд ядуць».*

***Мікола КОТАЎ,***
***мастацкі кіраўнік ансамбля «Вясёлыя музыкі»***
***Фота аўтара***



## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 13

**Уздоўж:** 1. Святляк. 5. Мазанік. 8. Опера. 9. Рыер. 10. Лонг. 11. Арба. 13. Ікра. 15. «Дэкамерон». 17. Лазня. 19. Пікап. 21. Колба. 23. Скрыжаль. 24. Чэрнеўка. 26. Антон. 28. Керэт. 29. Варта. 32. Курыловіч. 35. Опус. 37. Ятка. 38. Ашуг. 39. Чынш. 40. Араты. 41. Карагач. 42. Наталка.

**Упоперак:** 1. Самапал. 2. Тура. 3. Корак. 4. Кераміка. 5. Малер. 6. Айгі. 7. Конаўка. 12. Брыз. 14. Карл. 15. Дзяржынск. 16. Нікановіч. 18. Аркан. 19. Палік. 20. Прэнт. 22. Бакст. 25. Фролікаў. 26. Аброжак. 27. Табу. 30. Рост. 31. Аджанта. 33. Рагач. 34. Вічын. 36. Сага. 37. Яшма.

## Асцярожна, навальніца!

Маланка – гэта вялізны электрычны разрад, які ўзнікае ў выніку моцнай электрызацыі атмасферы падчас навальніцы. Ад удару маланкі нярэдка ўзнікаюць пажары, гінуць людзі і жывёлы. Найбольшая колькасць няшчасных выпадкаў у навальніцу (90 %) адбываецца ў сельскай мясцовасці. Часцей за ўсё маланка паражае чалавека. Таму варта памятаць аб асноўных правілах паводзін падчас навальніцы.

Перш за ўсё, пазбягайце адкрытых месцаў! Калі ж вы ў час навальніцы па-за памяшканнем, дык пастарайцеся схавацца ў невялікіх паглыбленнях, ля падножжа высокіх схілаў, у лесе. Надзвычай небяспечна знаходзіцца на ўзвышаным месцы, каля металічных канструкцый, хавацца пад адзінокімі дрэвамі і навесамі! Людзі, якія знаходзяцца ў машыне, лепш за ўсё абаронены ад паражэння маланкай.

Нават знаходзячыся ў час навальніцы ў абароненым памяшканні, прытрымлівайцеся дадатковых мераў засцярогі, выключыце з сеткі электрапрыборы і мабільныя тэлефоны. Не датыкайцеся да вадаправодных кранаў, не знаходзьцеся каля печак з комінам.

**Вольга ХВАШЧЭЎСКАЯ, інспектар ЦРАНС**

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВЯСЕЛЬНЫЯ ПЕСНІ** – найбольш развіты і шырока-поўны цыкл сямейна-абрадавага фальклору. Як сведчаць многія даследчыкі (П. Шэйн, Я. Карскі, М. Доўнар-Запольскі, З. Мажэйка і інш.), яны сярод славянскіх народаў асабліва шматлікія і яркія ў беларусаў. Вясельныя песні складаюць адзіны вясельны комплекс – абрадавы, музычны (напевы, найгрышы, галашэнні), харэаграфічны і драматычны, паэзію (песні, прыгаворкі, замовы, выслоўі-зычэнні, прыпеўкі, прыказкі, загадкі). Іх асноўная ўласцівасць – натуральная сувязь з этапамі вяселля, пачынаючы з заручын і канчаючы пярэзвамі (перазовамі і інш.) Па-за вяселлем яны не выконваюцца. З глыбокай старажытнасці і да XX ст. вясельныя песні выяўлялі даўняе звычаёвае права: даводзілі да ведама грамадскасці аб ходзе вяселля, пацвярджалі новыя адносіны паміж асобамі, якія бралі шлюб, служылі сродкам яго бытавога юрыдычнага замацавання. А таксама яны мелі і сімвалічна-магічны сэнс. На некаторых этапах вяселля змест і характар песень не менш цаніўся, чым абрадавыя дзеянні: без адпаведнага слова не рабілі ніводнага руху, і абрад рабіўся змястоўны і значны. Асаблівасць беларускіх вясельных песень – шматлікасць песень каравайных, пасадных, сірочых, суборнай суботы. Сямейныя і аграрныя матывы былі цесна сплеценыя, выяўлялі рысы гаспадарлівасці, імкнення да дабрабыту, сямейнага шчасця. Шырока адлюстроўваліся нацыянальныя побыт, рысы характару, светапогляд і народныя грамадскія ідэалы, этычныя і эстэтычныя густы. Беларускія вясельныя рысы асабліва выразна пачалі праяўляцца ў XIII–XIV стст. – гэта значыць, з пачаткам фармавання і станаўлення ВКЛ, у якім многае ў духоўна-культурным жыцці будавалася на беларускім падмурку. Калі ў XIV–XVII стст. развілася беларуская мова, а з ёю і народнасць, то развіўся і вобразна-стылістычны пласт беларускіх вясельных песень. Далейшыя эпохі (напрыклад, развіццё капіталістычных адносін у Беларусі) унеслі ў гэтую справу свае карэктывы.

Беларускія вясельныя песні звычайна выконваліся калектыўна. Шмат іх праяўлялася ў форме драматычных сцэн з некалькімі дзейнымі асобамі, якія рабілі ў іх свае ўстаўкі ў рухах і размовах, чым дасягалася патрэбная дынаміка. Светаадчуванне герояў перадавалася пры дапамозе сімвалічных вобразаў і карцін, з сумяшчэннем прыкмет эпасу, лірыкі і драмы, чым праяўлялася яркая адметнасць галіны народнай творчасці.



*Вясельная дружына ў час пераезду маладой (маладыя сядзяць на куфры з пасагам)*

*(Заканчэнне артыкула будзе)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26, 234 61 62. E-mail: kraga@tut.by

З-за абмежаванасці сродкаў выданне безганарарнае. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 12.04.2007. Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14). Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 408
Тыраж 1420 асобнікаў.